ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Жыве Беларусь!

Выдаецца са снежня 1994 г.
№14(74), жнівень 2001 г.
Кошт па дамове.



Найлепшае для дзеўкі зелле –
Яе уласнае вяселле,
А для хлапца – не булка з цеста,
А сэрцу любая нявеста!

Усіх маладажонаў, якія ўступілі ў шлюб у жніўні, віншуе *"Вольнае Глыбокае"* і жадае, каб у Вашых сем'ях было ўтульна, на сталах – ежна, у душы – светла, а ў жыцці – спеўна! І каб кожны Ваш новы тыдзень пачынаўся з цікавай сустрэчы з *"Вольным Глыбокім"*.

**Заставайцеся з намі!**

## Школа журналістыкі запрасіла

12 жніўня пры рэдакцыі газеты "Вольнае Глыбокае" прайшлі першыя заняткі аўтараў, якія сталі слухачамі школы журналістыкі. Сярод іх Сафія Табола, Рыгор Шарыпкін, Зміцер Лупач, Зміцер Курцэвіч, Васіль Саланінка, Ганна Мартыноўская, Яраслаў Берніковіч, Юрый Калбасіч, Наталля Янковіч, Сяргей Уліцкі, Андрэй Храпавіцкі. Рэдактар газеты "Вольнае Глыбокае" Г.Е.Сутула пазнаёміла прысутных з планам работы школы журналістыкі, расказала, што ўжо зроблена з мэтай развіцця аўтарскай сеткі. Было адзначана, што на тыднёвіку супрацоўнікі рэдакцыі спыняцца не будуць. У бліжэйшым часе газета плануе перайсці на васьміпалоснік з праграмай тэлеперадач, пайсці ў падпіску, значна павялічыць тыраж, бо тысяча паасобнікаў ужо не задавальняе чытачоў -- газеты на ўсіх жадаючых яе набыць не хапае.

Першая тэарэтычная лекцыя была пра жанры журналістыкі, якімі могуць карыстацца аўтары і пра асновы рэдагавання ўласных матэрыялаў.

Зацікаўленая размова адбылася і па тэме выбараў Прэзідэнта РБ. Абмен думкамі і ўласным вопытам дазволіў кожнаму набыць пэўныя веды, якіх яшчэ не меў дагэтуль. Сяброўская сустрэча застанецца на фотаздымку.

*В.Саланінка*

## Поспехі юных краязнаўцаў Глыбоччыны

22 чэрвеня ў Полацку ў Нацыянальнай гімназіі праходзіла канферэнцыя юных краязнаўцаў паўночна-заходняга краю Віцебшчыны. Вучні выступалі са сваімі краязнаўчымі даследаваннямі. Абарона творчых прац ішла ў трох накірунках. Прыемна адзначыць поспехі нашых глыбачан. У намінацыі "Адраджэнне культурных традыцый" 1-ае месца занялі двое вучняў Кіраўскай СШ. У намінацыі "Летапісанне родных мясцін" 2-ое месца атрымала вучаніца Лучайскай БШ Лаўцэвіч Наталля. Пераможцаў узнагародзілі ганаровымі дыпломамі і каштоўнымі падарункамі – кнігамі беларускага пісьменніка Уладзіміра Арлова.

*Р.Шарыпкін, в. Лучайка*

## Дакрананне да духоўнага скарбу

У сярэдзіне ліпеня група вучняў 4-га класа, членаў краязнаўчага гуртка "Наша спадчына" Лучайскай БШ, здзейсніла археалагічную разведку на гарадзішча ў в.Запруддзе (Залескі сельскі савет). Мэтай гэтай вандроўкі было набыццё першасных навыкаў вядзення археалагічных даследаванняў. Дзеці атрымалі пробны ўрок дакранання да таямніц роднай зямлі, абследавалі старажытныя мясціны Залесчыны. У вандроўцы прынялі ўдзел самыя лепшыя краязнаўцы школы: Лаўцэвіч Наташа, Лаўцэвіч Іра, Зазуліна Юля, Кухта Віка і Керскі Саша.

*Р.Шарыпкін*



Фота Ул.Скрабатуна

## Паважаныя настаўнікі, бацькі, дарагія вучні!

***Шчыра віншуем Вас з пачаткам новага навучальнага года. Добра ведаем, што дзеці яшчэ не нагуляліся на канікулах, а многія педагогі зусім не адпачылі ад складаных працоўных будняў. Ведаем, што многія дзеці і настаўнікі бавілі час у ягадах, грыбах, у вёсках – на сенакосах, на дзялках. Стараліся не столькі адпачыць, колькі выжыць. І ўсё ж пачатак навучальнага года адметная падзея тым, што і дзеці, і настаўнікі жыццёва пасталелі, памудрэлі, шмат чаго зразумелі. Мы жадаем ім усім здароўя, працоўнага плёну, належнай аплаты за нялёгкую працу. Спадзяёмся, што новы навучальны год прынясе лепшыя змены як у краіну, так і ў школьнае жыццё.***

***Новы крок па жыццёвай дарозе***
***Трэба кожнаму зараз рабіць,***
***І пісаць паўсядзённую прозу,***
***І дабро, і павагу цаніць.***

*Супрацоўнікі "ВГ"*

## Людзі зарабляюць, а мы ім зайздросцім

У 1995-ым годзе ў Польшчы сярэдні заробак складаў 285 долараў у месяц, у 1999-ым - 370. У Чэхіі за гэты ж час заробкі павялічыліся з 308 да 363 долараў, у Эстоніі - са 186 да 324, у Літве - са 163 да 281, у Латвіі - са 161 да 246. А што ж у Беларусі? Нам толькі застаецца зайздросціць, бо калі ў 1994-95гг. заробак беларусаў набліжаўся да 100 долараў, то зараз ён ледзь складае 65-70. Гэта называецца дажыліся.

*Па матэрыялах рэспубліканскага друку*

## Чатыры кандыдаты ў прэзідэнты

14 жніўня Цэнтральная выбарчая камісія зарэгістравала чатырох кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Імі сталі Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, Сяргей Гайдукевіч і Аляксандр Лукашэнка.

Дзень рэгістрацыі кандыдатаў стаў пачаткам перадвыбарнай агітацыі.

*У.Собалеў*

## «Саюздрук» адмовіўся прадаваць «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках

Ужо тры тыдні незалежная рэгіянальная газета "Вольнае Глыбокае" выходзіць з каляровым дадаткам тэлеперадач і рэкламы і мае вялікі попыт. Трыста экземпляраў газеты ў другі тыдзень жніўня не дайшлі нават да нядзельнага рынку, бо былі распрададзены ў суботу. Каб хапіла ўсім, мы павялічылі запыт TV+ да пяцісот экземпляраў і думаем, што гэта далёка не мяжа. На жаль, нашу газету 17 жніўня адмовіліся браць у "Саюздруку", а таму ні ў адным глыбоцкім кіёску вы, паважаныя чытачы, яе не знойдзеце. Супрацоўнікі "Саюздруку" сказалі, што газета наша прыгожая, з праграмай, танная па кошту і з-за яе кіяскеры не могуць прадаць нават па 5 экземпляраў "Савецкай Беларусі" і іншых дзяржаўных газет, якія трэба ўсяляк прапагандаваць, бо выданні гэтыя, як на іголцы, сядзяць на датацыі. Адным словам, газета "Вольнае Глыбокае" стала асноўным і даволі моцным канкурэнтам для газет, якія ў нашых "рыначных" умовах нават не здольны сябе раскруціць так, каб пракарміцца. Мала таго, што яны цягнуць сабе сродкі чытачоў, падаткаплацельшчыкаў краіны, яны яшчэ і перашкаджаюць чытачам атрымоўваць праўдзівую, цікавую, разнастайную інфармацыю, якую рыхтуюць незалежныя выданні. Але гора без дабра не бывае. "Вольнае Глыбокае" можна купіць паранейшаму ў нашага распаўсюджвальніка, які ў пятніцу і суботу працуе на глыбоцкай "хітрушцы", а ў нядзелю на глыбоцкім рынку. З кожным днём расце колькасць сяброў і прыхільнікаў нашай газеты, павялічваецца колькасць аўтараў, якія падказваюць цікавыя, хадавыя і жыццёвыя тэмы.

Усім чытачам "Вольнага Глыбокага" нагадваем: аб'явы, рэклама і віншаванні ў нас пакуль бясплатныя.

*Супрацоўнікі "Вольнага Глыбокага"*

## Цытата першай паласы

Из нас любой, пока не умер он,
Себя слагает по частям:
Из интеллекта, секса, юмора
И отношения к властям.

*И.Губерман*

## Фестываль арганнай музыкі ў Мосары

Не перастае здзіўляць сваіх прыхаджан з Мосара Глыбоцкага раёна ксёндз-прэлат Ёзас Булька. Ён пераратварыў касцёл Святой Ганны ў цудоўны палаца-паркавы ансамбль у стылі класіцызму. З 1980 года тут збіраюцца тысячы вернікаў, каб адзначыць дзень Святога Яна Хрысціцеля. У сценах храма, які мае больш чым двухсотгадовую гісторыю, 4-5 жніўня ў чарговы раз прайшоў фестываль арганнай музыкі. Запрошаныя з Польшчы студэнты Кракаўскай кансерваторыі выконвалі творы І.С.Баха і музыку кампазітараў XX стагоддзя. Зусім не выпадкова, што Мосарскі касцёл Святой Ганны быў уключаны ў праграму агульнанацыянальнага святкавання, прысвечанага 2000 - годдзю хрысціянства на Беларусі.

*У.Шык*

## Праз гады, праз адлегласці

Не хавалі сваіх слёз былыя выпускнікі былога Глыбоцкага педвучылішча, якія сабраліся разам праз 50 год пасля выпускнога балю. У сценах гэтай навучальнай установы вучыліся таленавітыя маладыя людзі, якія пранеслі праз гады і сяброўства, і патрыятызм. Самы першы выпуск быў у 1947 годзе. На сустрэчу сёлета прыехалі магістры Люблінскага і Ольштынскага універсітэтаў, што ў Польшчы, Міхаіл Кордас і Ганна Талочка. Тут жа быў сфарміраваны аргкамітэт на чале з Эдмундам Гірыным. Дзякуючы яго энтузіязму і настойлівасці, ужо сабраны звесткі пра больш чым чатыры сотні выпускнікоў, распачата кніга пра лёсы людзей пасляваеннага часу.

Кіраўнік грамадскай супольнасці Пастаўшчыны Міхась Гіль(справа) чытае свежы нумар «Вольнага Глыбокага». Побач -- дызайнер газеты Васіль Саланінка. *Фота Я.Берніковіча*



# Ружовыя мары цёмнай рэальнасці

60-кватэрны кааператыў у мікрараёне Беразвечча, што ў Глыбокім, пакуль не дабудаваны. Яшчэ ў чэрвені будаўнікі пакінулі аб'ект з-за нявыплаты запазычанасці. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, як мыльны пузыр, лопнуў яшчэ адзін міф аб эканамічнай стабільнасці ў Беларусі.

Мясцовыя ўлады, як могуць, згладжваюць праблемы жыллёвага будаўніцтва. За тры апошнія гады ўзведзена 230 кватэр. На будаўніцтва 60-кватэрнага дома жадаючых было толькі 41 чалавек. Многія не ў сілах выплаціць першапачатковы паявы ўзнос 10% ад кошту. І ўсё ж, нягледзячы на гэтыя абставіны, дом пачалі будаваць. Уступіць у жыллёвы кааператыў жадаючых так і не знайшлося і райвыканкам абавязаў дабудаваць 16 кватэр вядучыя прадпрыемствы горада. Раней за такое права спаборнічалі, а сёння нават такія прадпрыемствы як ПЭС, "Аграпрамбанк", "Беларусбанк", мясакамбінат, лясгас, будавацца адмовіліся.

Хто ж пацярпеў у дадзенай сітуацыі? Найбольш забудоўшчыкі,члены кааператыва №6. Будоўля зацягваецца, з-за росту сметнага кошту і інфляцыі "з'ядаецца" ледзь не 5% сумы, унесенай першапачаткова. А сума была не маленькая – ад тысячы і больш долараў. Тры сям'і, не дачакаўшыся кватэры, выйшлі з кааператыва і праз суд дабіліся індэксацыі сваіх паявых узносаў. Выплочваць іх, што цікава, павінны іх сябры па няшчасці, якія па-ранейшаму чакаюць свайго вугла.

У незайздросным становішчы аказалася і мясцовая ўлада, якая павінна знайсці вінаватага і пакараць. Вымовы за зрыў будаўніцтва ўжо на месцах атрымалі. Але сітуацыя пакуль не змянілася. Пайшчыкаў супакойваюць, што кватэры дабудуюць чаго б не каштавала.

Застаецца толькі чакаць пакуль эканамічная стабільнасць на словах не стане ёй на справе.

*У.Шык*



Да выбараў застаўся тыдзень. Падумай і выбірай сабе годнае жыццё.

# Не сервіс, а пакуты

Яшчэ мінулай восенню дзве пенсіянеркі здалі на комплексны прыёмны пункт вёскі Узмены Мёрскага раёна воўну на пераапрацоўку. Жанчыны аплацілі заказ, які абяцалі ім выканаць праз месяц. Толькі праз паўгода вярнулі клункі, якія праваляліся тут без усялякага руху. Сфера паслуг на вёсцы дайшла да ручкі настолькі, што ў райбыткамбінаце ніяк не здолеюць вярнуць людзям 200 кг счасанай воўны. Няма грошай, каб разлічыцца з часальным пунктам у Відзах і заплаціць партнёрам ранейшыя даўгі.

Між тым, пакрысе РКБА, які летась скараціў 65 сваіх работнікаў, працягвае падаць у бездань. У службу занятасці паступілі звесткі, што яшчэ паўсотні бытавікоў неўзабаве страцяць працу. Тым часам акрамя праблемы з воўнай у калектыве не ведаюць, дзе ўзяць грошы, каб вярнуць кліентам за здадзенае ў хімчыстку і на пераафарбоўку адзенне, за фотамедальёны на помнікі. Гэтыя заказы выканалі іншыя спецыялізаваныя прадпрыемствы службы быту Віцебшчыны. Але пакуль ім не заплацяць грошай за працу, заказаў ніхто не аддасць.

# Куды падацца маладым?

Як і раней, у дні летніх канікул Мёрскі раённы цэнтр занятасці з ліку вучняў старэйшых класаў сфарміраваў добраахвотныя брыгады па рамонту школьных будынкаў. Год назад такая група з 30 хлопцаў падрыхтавала да навучальнага года чатыры школы і здолела зарабіць на ўсіх 1,5 млн. рублёў. На рынку працы ў глыбінцы менавіта моладзі цяжка знайсці прымяненне сваім сілам і здольнасцям. Прыйшлося тут узяць на ўлік у якасці беспрацоўных 45 выпускнікоў. На працягу года ў цэнтр за дапамогай звярталіся 298 юнакоў і дзяўчат. Новых рабочых месцаў ствараецца няшмат. Апошнім часам у горадзе ўвялі новую макаронную лінію ў аб'яднанні прадпрыемстваў грамадскага харчавання. ПМК-35 прыняў на працу 9 юнакоў на дрэваапрацоўку. Многім маладым людзям у падобнай сітуацыі можна толькі паспачуваць.

# Давайце супрацоўнічаць

Актыўна супрацоўнічае культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча пад кіраўніцтвам А.Э.Райчонак з айчыннымі і замежнымі аб'яднаннямі. Так, дзякуючы намаганням цэнтра, замежнае аб'яднанне "Каунтэрнет" прадаставіла Шаркоўшчынскаму раёну інвалідныя каляскі і спецмэблю для раённай бальніцы. А ў чэрвені адбылася сустрэча мясцовых жанчын з прадстаўнікамі Грамадскага аб'яднання "Беларускае аб'яднанне працоўных жанчын" (ГА БАПЖ) і кіраўніком аб'яднання Аліевай М.Г. На сустрэчу прыехалі ўрач-псіхолаг, юрыст, супрацоўніца Міністэрства сацыяльнай абароны. Адбылася цікавая, адкрытая размова за кубкам кавы, у час якой спецыялісты адказалі на пытанні прысутных. БАПЖ накіравала групу дзяцей на аздараўленне і адпачынак у Эстонію, Балгарыю і Ірландыю. А прадстаўнікі ГА "Ульяна" прывезлі шматдзетным маці з калгаса "Буравеснік" гуманітарную дапамогу – дзіцячае адзенне і абутак. Ад супрацоўніцтва карысць агульная. Узаемадапамога, міласэрнасць, падтрымка – аснова каштоўнасцяў, якія сёння патанаюць у праблемах і складанасцях. Крок насустрач чужой бядзе, які робяць прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, якраз тая выратавальная палачка, якая нараджае веру.

Давайце супрацоўнічаць і дапамагаць адзін аднаму.

*С.Табола*

**Радкі з канвертаў**

# Для тых, хто верыць у перамогу?

Давялося нядаўна купіць бутэльку гарэлкі "Генерал". Была нагода і хацелася эстэтыкі на стале і за сталом. Пагнаўся за даражэйшым, бо па логіцы, яно вышэйшай якасці. Паколькі пітун з мяне слабы, то я толькі язык памачыў. Гарэлка сапраўды мяккая і з добрай закуссю добра ідзе. Але сказаць хачу пра іншае. На корку і на этыкетцы на дзвюх мовах напісана: "Генерал – для ўсіх, хто верыць у перамогу". Крыху ніжэй пазначаны састаў, ёмістасць, моц і тэрмін захоўвання – 12 месяцаў. Усмешку выклікаў подпіс пра тых, хто верыць у перамогу і пра тэрмін захоўвання. Калі б я выпіў бутэльку таго "Генерала", то перамог бы толькі бутэльку і нічога больш. Было б больш удала, па-моему, напісаць: для тых, хто хоча "адцягнуцца" па поўнай. А наконт тэрмінаў захоўвання, то яны для прадаўцоў, а не для нас. Гарэлка каштуе больш трох тысяч і купіць яе можа далёка не кожны. Таму і не дзіва, што стаіць яна на паліцах "мёртва". А калі ўжо і купіў хто гэтую "радасць", то дзе вы бачылі такога дурня, які б трымаў яе 12 месяцаў? Гэта жыццёвыя кур'ёзы. Шкада таго, што якаснае дысертнае віно нам не па кішэні. Вось і купляем падчас "Генералаў", напіваемся і ператвараемся не ў генералаў, а ў радавых нашага суровага салдацкага жыцця.

*Ваш чытач Міхаіл Г.*

# Лось наведаўся ў горад

Пагадзіцеся, убачыць лясного прыгажуна-лася на гарадской вуліцы – рэдкая падзея. Вялікае было здзіўленне пенсіянера з Пастаў, былога рэдактара райгазеты Мікалая Маразюка, калі самая буйная жывёла з сям'і аленяў лёгка пераскочыла праз плот і апынулася ў садзе каля дома. Сабакі суседзяў напужалі госця брэхам, і ён пераскочыў на вуліцу. З прахожымі на вуліцы звер сустракацца не пажадаў і неўзабаве схаваўся ў хмызняку ля лясного масіва, які падступае да райцэнтра. Цяжка сказаць, чаго прыходзіў лось у горад, але радуе тое, што прыходзіць ёсць каму. У апошнія тры гады ў нашым і ў суседніх раёнах адзначаецца павелічэнне колькасці дзікіх звяроў. Згодна апошняга перапісу, у лясах Пастаўшчыны зараз жыве 121 лось, 373 дзікі, 460 казуль, а баброў прыбавілася на трэць і іх колькасць складае зараз 608 галоў.

*У.Шык*

# Прыватнікі дапамаглі калгасу

Незвычайны дэсант з добраахвотнікаў высадзіўся напярэдадні жніва на сенажацях калгаса "XXV партз'езд" Пастаўскага раёна. Тэхніка тут дабітая і таму старшыня калгаса В.Пашкевіч папрасіў вясковых фермераў дапамагчы з уборкай траў. Адгукнуліся прыватнікі, якія маюць свае трактары і касілкі. За пару дзён давялі да ладу травы больш чым на 30-ці гектарах. У якасці аддзякі калгас паабяцаў сваім добраахвотным памочнікам у першую чаргу абмалаціць збожжа на іх уласных сотках. Гэты факт даказвае, што сельскі жыхар не прападзе нават тады, калі канчаткова абанкруцяцца дабітыя да ручкі калгасы і саўгасы.

*У.Шык*



Іншы раз трывожна і маркотна робіцца на душы. Тады сядзем з суседкай, кульнём чарачку, успомнім маладосць і пасвятлее ў вачах. Шкада, што іншы раз чарку тую і закусіць няма чым. Дажыліся!

# Цяп-ляп і гатова

Шыкоўныя асабнякі для маладых сем'яў будаўнікі паспелі завяршыць у калгасе імя Даватара Шаркоўшчынскага раёна перад Новым годам. Але пад вясну ў вёсцы Палякі нават зямля вакол гэтых дамоў прасела. А ў саміх пакоях быццам адбыўся штучны землятрус. Фарбы пасыпаліся, падлога прагнулася, дзверы перакасіліся, а па сценах, не паспелі людзі засяліцца, пайшлі трэшчыны. Добра яшчэ, што мясцовая ПМК №68 згадзілася за свае сродкі правесці капітальны рамонт толькі што здадзенага жылля. Акрамя дрэннай якасці работ будаўнікі не здолелі своечасова асвоіць сродкі, выдаткаваныя на будоўлю райбальніцы, не здалі ў тэрмін жыллё для працаўнікоў саўгаса "Гарадзец". За мінулы год у гэтым краі тэмпы будаўніцтва ўпалі на 15%. У новае стагоддзе перайшло 35 недабудаваных жылых дамоў. Тым часам кваліфікаваныя будаўнікі ў пошуках лепшай долі шукаюць заказы па-за межамі канторы, у асноўным на прасторах Расіі.

*У.Шык*

# "Падарунак" для школьнікаў

У магазіне вёскі Шкунцікі пачалася пераацэнка кошту стрыжняў, аўтаручак, алоўкаў і сшыткаў у бок змяншэння. Падобнае адбываецца па ўсіх магазінах Шаркоўшчынскага раёна.

Купіўшы алоўкі ў Глыбоцкім універмагу ў аддзеле канцтавараў, я таксама заўважыла цікавую рэч. На ўпакоўцы алоўкаў былі наклеены адзін на адзін тры цэннікі. На першым значылася 1310 рублёў, на другім – 1344, на трэцім, самым ніжэйшым, – 1362. Я купіла алоўкі за 1310. Як бачна, кошт змяншаецца.

-- Што тут дрэннага? – спытае чытач.

Перад школай гэта выгодна. Паспрабуй зараз школьніка сабраць у школу. А калі ў сям'і два ці тры вучні? Вядома ж, дрэннага нічога няма. Толькі кідаецца ў вочы вось што. Напярэдадні мінулагодняга навучальнага года ніхто не думаў аб праблемах бацькоў і іх дзяцей, ніхто не змяншаў кошты на канцтавары. А сёлета адумаліся. Клопат праявілі. Ведаеце чаму? Таму што сёлета —выбары. Таму што гэта чарговы хітры ход: маўляў, бачыце, які добры кіраўнік дзяржавы. Падобная ласка вельмі ўдалая, бо ў краіне вельмі шмат сем'яў, дзе ёсць вучні і вельмі шмат такіх сем'яў, у якіх няма лішняй капейкі. Гэта хітры ход яшчэ і таму, што сёння цэны на школьныя тавары зменшаны на рублі, а заўтра, пасля выбараў, яны будуць павялічаны на сотні рублёў. Гэта мы ўжо праходзілі.

Самі прадаўцы называюць уцэнку "падарункам прэзідэнта". Пакупнікі, можа, яшчэ і не заўважылі той ласкі, а калі і заўважылі, то наўрад ці ацэняць годна – людзі ў нас хоць і не ўсе з вышэйшай адукацыяй, але ўсё разумеюць.

*Я.Савойка*

# «У часу ў палоне»

У гасцініцы "Беларусь" адбылася прэзентацыя кнігі "У часу ў палоне", якая прысвечана памяці вядомага беларускага палітыка Генадзя Карпенкі. Ён трагічна памёр 6 красавіка 1999 года ў выніку інсульта.

У кнізе сабраны матэрыялы аб жыцці і дзейнасці Генадзя Карпенкі, успаміны пра яго жонкі, брата, маці, дачкі, сяброў і палітыкаў. Аўтарам кнігі стаў брат народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча - пісьменнік Мікола Гіль.

*Ю.Пацёмкін*

## 9 ВЕРАСНЯ -- ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Новая Беларусь з Уладзімірам Ганчарыкам

Уладзімір Ганчарык – лідэр беларускіх прафсаюзаў. Прафсаюзы — гэта самая масавая грамадская арганізацыя грамадзян. Галоўная задача прафсаюзаў – абарона інтарэсаў і правоў працоўных. Прафсаюзы абараняюць інтарэсы наёмнага работніка пры прыёме на працу, патрабуюць ад адміністрацыі прадпрыемстваў выканання абавязкаў па заработнай плаце, ахове працы, у выпадку хваробы (выплаты па бальнічным лісце), дапамагаюць вярнуцца на працу незаконна звольненым. У сістэме прафсаюзаў – дзіцячыя аздараўленчыя лагеры, прафілакторыі, дамы адпачынку, спартыўныя комплексы.

Прафсаюзы існуюць за кошт узносаў. Цяперашняя беднасць прафсаюзаў звязана з нізкай аплатай працы ў цэлым па краіне. 75% прафсаюзных узносаў застаюцца ў мясцовых арганізацыях. На астатнія сродкі існуюць 429 бібліятэк, 308 клубаў, 90 стадыёнаў, 76 басейнаў, 563 спартыўныя залы, 175 дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ.

За апошні год прафсаюзы на чале з Ганчарыкам:

-- абаранілі даплаты за прафшкоднасць на вытворчасці;

— дабіліся павелічэння аплаты па бальнічных лістах (аплата ў памеры 80% налічваецца не з 6 рабочых, а з 6 каляндарных дзён, з сёмага дня хваробы – аплата ў памеры 100%);

— дабіліся вызвалення ад расійскіх падаткаў беларускіх работнікаў, якія працуюць у Расіі вахтавым метадам (у выніку асабістага пісьма Ганчарыка У.Пуціну);

— вядзе справу ў Канстытуцыйным судзе аб вяртанні чарнобыльцам ільгот, якія незаконна адменены дэкрэтам кіраўніка краіны.

*Праграма У.Ганчарыка – гэта праграма гарантый.*

**У эканоміцы** галоўная задача – даць людзям магчымасць працаваць і зарабляць. Трэба захаваць буйныя прадпрыемствы, якія працуюць эфектыўна, стымуляваць развіццё малога і сярэдняга бізнесу, прадставіць роўныя правы ўсім прыватнікам, заахвочваць тых, хто стварае новыя працоўныя месцы. Эканоміка павінна быць канкурэнтнай. Канкурэнцыя – гэты адзіны магчымы шлях да зніжэння цэн. Павінны быць выплачаны да капейкі падаткі з прадпрыемстваў. Увесці адзіны падатак для ўсіх грамадзян у памеры 13%. У эканоміцы павінна дзейнічаць схема: змяншэнне падаткаў – ажыўленне вытворчасці – стварэнне новых рабочых месц – напаўненне бюджэту.

**У сацыяльнай сферы.** Асноўны прынцып: моцным – работу, слабым – клопат. Гарантыі сям'і, гарантыі працы, гарантыі пажылым людзям. Сям'і – дзяржаўная дапамога на выхаванне дзяцей. Здароў'е сям'і – гэта не толькі фізкультура і добрае харчаванне. Гэта сацыяльна абароненыя медработнікі. Настаўнікам і ўрачам – заробак вышэй сярэдняга па краіне ў 1,5 раза. Пажылым людзям – павелічэнне пенсій ў сярэднім у два разы. Гарантыі працаўладкавання – заахвочванне малога і сярэдняга бізнесу. Малы бізнес – лепшая крыніца новых рабочых месц. Дапамога дзяржавы ў набыцці новых прафесій, у навучанні асноў бізнесу.

**У палітычнай сферы.** Галоўны прынцып: улада для народа, а не народ для ўлады. Аднаўленне сістэмы раздзялення ўлад. Ні адна з улад – прэзідэнт, парламент, суд – не будзе мець абсалютнага права ўмешвацца ў наша жыццё. Гарантыі свабоды слова. Справаздачнасць прэзідэнта, дэпутата і чыноўніка за кожную растрачаную капейку, за кожны пастаўлены роспіс. Ніякіх "закрытых" бюджэтаў не павінна быць. Выбарнасць мясцовай улады. Кіраўнік адміністрацыі горада, раёна, вобласці павінен залежыць не ад вышэйшага начальства, а ад выбаршчыкаў. Мы будзем выбіраць – мы і спытаем.

**У знешняй палітыцы.** Асноўная мэта – пераадоленне міжнароднай ізаляцыі краіны, шматвектарная палітыка. Гарантаваць знешнюю бяспеку і дзяснасць краіны. Гарантыі знешняй бяспекі – гэта не толькі моцная армія. Гэта эканамічная стабільнасць, росквіт і палітычны аўтарытэт краіны. Беларусь захавае статут нейтральнай краіны і без'ядзернай зоны. Неабходна ўсталяваць больш цесныя эканамічныя адносіны з Расіяй. Адносіны з Расіяй павінны будавацца "зверху" – ад інтэграцыі прадпрыемстваў да ітэграцыі эканомік і да палітычнага саюза. Важная задача – уступленне ў Еўрапейскае таварыства.

**Паважаныя выбаршчыкі!**

*У праграме Уладзіміра Ганчарыка няма занадта салодкіх і хуткіх па выкананню абяцанак. У ёй ёсць логіка, здаровы сэнс. У ёй закладзена чарнавая шматдзённая праца, без якой не здабываецца нават кавалачак хлеба не тое што дабрабыт нацыі. Калі мы прагаласуем 9 верасня за У.Ганчарыка, у нас з'явіцца шанц змяніць жыццё ў лепшы бок, шанц займець свабоду і заняцца любімай справай, якая прынясе не толькі маральнае задавальненне, але і дабрабыт нашым сем'ям.* ***Прыйдзем жа ў новую Беларусь разам з Уладзімірам Ганчарыкам!***



***Уладзімір Іванавіч Ганчарык нарадзіўся 29 красавіка 1940 года (61год) ў вёсцы Аўгустава Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Адукацыя – вышэйшая. У 1961 годзе скончыў інстытут народнай гаспадаркі. Па спецыяльнасці – эканаміст. Кандыдат эканамічных навук. У 1995 годзе быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Пасля рэферэндума 1996 года адмовіўся ўвайсці ў склад Палаты прадстаўнікоў.***

***Жанаты. Жонка Ліля Антонаўна – эканаміст.***

***У сям'і двое дзяцей – сын і дачка – і тры ўнукі.***

***Любімае выказванне: "Отвергая – предлагай, предлагая – действуй!"***

## Для чаго патрэбна датэрміновае галасаванне?

Як стала вядома з дасведчаных крыніц, на сёлетніх выбарах мясцовай уладзе пастаўлена задача забяспечыць не менш 30% яўкі выбаршчыкаў на датэрміновае галасаванне. Калі ж арыентавацца на выніку леташніх выбараў ў Палату прадстаўнікоў, то бачна, што і сёлета кіраўнікі на сельскіх участках збяспечаць і больш 50%. Узнікае пытанне: "Што ж павінна адбыцца ў Беларусі 9 верасня?" Ці якая вялікая бура ці патоп, ці ўсе беларусы дружна паедуць па гасцях, што ніхто не зможа прагаласаваць у адведзены для гэтага дзень? Адказ можа быць толькі адзін: "Улады рыхтуюць фальсіфікацыі".

Я не выступаю супраць датэрміновага галасавання ўвогуле, але ж яно павінна адбывацца без прымусу. Як сведчыць практыка іншых краін, такіх выбаршчыкаў можа прыйсці 5%, але ніяк не 30%. Тым больш, калі чалавека сілай прымусіць галасаваць, то няма гарантыі, што ён прагаласуе так, як трэба ўладзе, а зусім наадварот.

Дык для чаго ж нас тады гоняць галасававаць датэрмінова? А для таго, што гэтыя галасы лягчэй за ўсё падмяніць. Ёсць звесткі, што ўжо распрацаваны механізм, як гэта будзе адбывацца. У ноч з 8 на 9 верасня, калі не будзе назіральнікаў, можна ўскрыць урны, падмяніць галасы. Прычым, ужо прадуманы варыянт, як гэта зрабіць у тым выпадку, калі ўчастковая камісія не пагадзіцца на фальсіфікацыю.

Таму, каб даць фальсіфікатарам менш шансаў, не галасуйце датэрмінова, калі Вы можаце прагаласаваць 9 верасня. У такім выпадку больш шансаў, што Ваш голас будзе ўлічаны правільна.

*З. Лупач*

**Каб хацеў, не прыдумаеш**

# "Гасцінцы" для гаспадыні

Гэту гісторыю мне расказала экскурсавод санаторыя "Буг" у Белавежскай пушчы. У г.Жабінка жыве супрацоўніца запаведніка Н.Г. Дз'ячэнка. Аднойчы ёй давялося выхоўваць маленькае ваўчаня. Больш года жыў ваўчанёнак у кватэры, але калі вырас, трымаць звера стала небяспечна для акружаючых. Воўк ёсць воўк, і Н.Г.Дз'ячэнка завезла любімца ў запаведнік, дзе шэрага пасялілі ў вальеры. Але хутка ён адтуль уцёк і вярнуўся да гаспадыні з курыцай у зубах. Гасцінец прынёс. Наталля Георгіеўна зноў адвезла яго на новае месца жыхарства, але воўк і другі раз збег. І зноў прыйшоў дамоў з "падарункам", на гэты раз з індычкай. Нягледзячы на "падарункі", Н.Г.Дз'ячэнка ў чарговы раз адправіла гадаванца ў вальер. Але як і папярэднія разы, абхітрыўшы даглядчыка вальераў, воўк збег. Ведаючы, што кожны раз звер кіруецца да сваёй гаспадыні, Наталлі Георгіеўне патэлефанавалі, каб яна чакала "госця". І воўк прыйшоў. На гэты раз ён прынёс сваёй выхавацельніцы... поўную сумку з прадуктамі харчавання. Чаго толькі ў той сумцы не было! Вэнджаныя каўбасы, рулет, сыр, масла, разынкі, цукар, смятана, алей, апельсіны... Н.Г Дз'ячэнка звярнулася ў міліцыю. "Магчыма, воўк напаў на чалавека, — расхвалявалася жанчына, — інакш дзе можна ўзяць сумку з прадуктамі?". Але вось дзіва – пацярпелы не адгукнуўся. Затое было і другое дзіва -- непадалёк ад сталовай санаторыя знайшлі яшчэ дзве сумкі поўныя прыпасаў, якія нехта кінуў на дарозе. Каля сумак былі бачны воўчыя сляды. Абрабаваныя так і не адгукнуліся, але знайшоўся сведка. Ён расказаў, што бачыў, як з сумкамі ў руках работніцы сталовай кіраваліся да вячэрняга аўтобуса, але дарогу ім перагарадзіў воўк. Ён вымусіў жанчын кінуць "натуральны заробак" і, агледзіўшы, абнюхаўшы сумкі, узяў тую, якую змог несці. Напэўна, воўк думаў, што папярэднія "падарункі" не задаволілі гаспадыню і вырашыў зрабіць ёй больш шыкоўны. Але чаму ён выбраў менавіта работніц сталовай, дакладней, іх сумкі: ён жа сустракаў многіх людзей з сумкамі, але не чапаў іх? А міліцыянеры, разабраўшыся ў чым справа, прапанавалі не адвозіць ваўка ў Белавежскую пушчу, а пакінуць на службе ў РАУС у аддзеле па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. Спецыяліст атрымаўся б цудоўны, бо вельмі ж дакладна вылічыў звер, каго можна "раскулачыць".

*С.Табола, в.Заазерцы*

## Колькі ж чакаць абяцанага?

Ёсць вядомая руская прымаўка: "Обещанного 3 года ждут". Але падобна , што да беларусаў яна не адносіцца. Мы ўжо чакаем абяцанага 7 гадоў і многія з нас згодны чакаць яшчэ 5. За такі час мы зусім забудзем пра тое, што нам абяцалі. Таму ў 2006 годзе перадвыбарную кампанію зноў можна будзе пачаць абяцанкамі 1994 года.

*Адным радком*

Кошт грама золата, якое Нацбанк Беларусі рэалізуе юрыдычным і фізічным асобам у мерных злітках (проба 999,9), складала на 20 жніўня 19314 рублёў.

Юбілей

# Віншаванне
## Уладзіміру Саулічу

***Жыццё – гэта вялікі прыродны калаварот, пачатак якому нараджэнне чалавека. А далей ідзе дзяцінства – юнацтва – каханне – першыя поспехі – заслужаная павага – і віншаванні ў дні юбілеяў і прафесійных свят.***

1 верасня адзначае свой юбілей наш зямляк, драматург, журналіст Уладзімір Сауліч. Гэтае імя мы, яго калегі, сябры і знаёмыя, перш за ўсё звязваем з талентам, прафесійным майстэрствам, дабрынёй, шчырасцю.

Уладзімір ад прыроды надзелены дарам гумарыста, артыста, настаўніка, які кожную сваю сустрэчу-ўрок са слухачамі пачынае простым, але трапным словам, дасціпнай думкай, сакавітым жартам. Яго творчасць, як дама-арыстакратка: прыгожая, апранутая з густам, з далікатнымі вытанчанымі манерамі. А гэта і ёсць Талент.

У паўсядзённым жыцці Уладзімір Сауліч спагадлівы, чулы чалавек, таварыскі ў абыходжанні, кампанейскі і вясёлы. Ён – клапатлівы бацька і гаспадар. Ён – добры сусед, які ніколі нікому не адмовіць у дапамозе.

Ён незайздросны і не пагардлівы. Уладзімір той чалавек, якога хочацца паважаць, на якога хочацца раўняцца. На яго хочацца быць падобным і ганарыцца калі не сяброўствам, то добрымі адносінамі з ім.

*У жыцці здараецца ўсяляк:*
*Цёплаў восень, а зімой – завеі.*
*Хоць па-рознаму жывём мы: так-не так*
*Разам адзначаем юбілеі.*

У дзень юбілею хочацца пажадаць Уладзіміру найперш моцнага здароўя, творчага натхнення, новых напрацовак, якія б і павучалі слухача, і давалі яму магчымасць адпачыць душой.

Няхай наступныя гады прынясуць Уладзіміру новыя кнігі, новыя перамогі, новых сяброў і аднадумцаў.

Няхай у жыцці цябе, Уладзімір, не пакідае каханне, надзея і Усявышні.

*Супрацоўнікі "Вольнага Глыбокага"*

Жыццё якое яно ёсць

# Дзяржаўнае свята? Не, карова ў ахвоце

Кожны месяц багаты на Беларусі "святамі", якія ўлады аб'явілі дзяржаўнымі. Звычайна ў такія дні над прадпрыемствамі і дзяржустановамі трапеча палотнішча чырвона-зялёнага сцяга ўзору 1952 года. Але святы тыя, на жаль, ні ежы ў нашы халадзільнікі не падкінуць, ні святочнага настрою, ні пазбавяць ад бясконцых клопатаў. Таму ў большасці дзяржаўныя святы людзі не ўспрымаюць. У іх разуменні дзяржаўныя зусім не значаць народныя. Але гэта адступленне. Вярнуся да чырвона-зялёнага сцяга і таго дзіва, якое нядаўна назіраў.

Еду па вёсцы Ракаўцы і бачу ля хаты свайго знаёмага гэты самы сцяг, прывязаны вяроўкай да дрэва. Калі б сцяг вісеў ля выканкама ці сельсавета, то нічога дзіўнага, а тут у глыбінцы, жыхары якой зусім не цікавяцца палітыкай... Адразу падумалася, што знаёмы мой памяняў ранейшыя погляды на супрацьлеглыя, нагледзіўшыся праграм Азаронка. Перш ён, як і я, думаў, што сцягам РБ можа быць толькі бел-чырвона-белы, прапанаваны калісьці нашым земляком К. Дуж-Душэўскім, 110-годдзе якога мы адзначалі сёлета ў красавіку. Пры сустрэчы я спытаў знаёмага пра тое, што так мяне ўсхвалявала. Адказ быў просты і да недарэчнага-смешны:

— Разумееш, карова ў нас у ахвоце, а ў калгасе для такой справы няма быка і гэтыя абавязкі выконвае асімінатар з райцэнтра. Дык восъ каб адзначыць месца, дзе спецыяліста з нецярпеннем чакае рыжуха, вывешваюць шмату кідкага чырвонага колеру. Бацька ніяк не мог знайсці патрэбную, а я вазьмі і прапануй яму былы сцяг БССР, які ўжо год дзесяць у прыбанніку валяецца.

Гэтая гісторыя яшчэ раз даказвае, што народ мае права і прызнае сваім той сцяг, які ўвекавечаны пакаленнямі беларусаў. А былы сцяг наш кемлівы гаспадар-сялянін не выкіне, а выкарыстае і прыменіць па назначэнню – вывесіць на бачным месцы тады калі "свята" ў каровы, а дакладней, калі тая ў ахвоце.

*Я.Бернікові́ч, в. Верхнее*

# Пленэр і выстава мастакоў

Да канца жніўня ў цэнтральнай выставачнай зале Пастаўскага дома рамёслаў "Стары млын" праходзіла выстава карцін, прысвечаная памяці вядомага мастака, ураджэнца нашых мясцін Альфрэда Ромера.

Майстар жывапісу пачынаў працаваць у Вільні, а ў канцы XIX стагоддзя быў вядомы ў Еўропе. Пад старасць ён вярнуўся на радзіму. Выставе папярэднічаў выязны пленэр, арганізаваны выкладчыкам мастацкай школы, мастаком Іосіфам Атрахімовічам. Побач са знакамітымі майстрамі пэндзаля з Мінска, Брэст Маладзечна ў пленэры прынялі ўдзел і мастакі-пачаткоўцы. На выставе былі выстаўлены 22 пейзажныя працы юных, дзе занатавана прыгажосць і хараство роднага краю.

# З апошніх намаганняў

Той, хто паглядзеў трансляцыю селектарнай нарады па пытаннях уборкі, на якой прысутнічаў кіраўнік дзяржавы, магчыма, падумаў, што сёлета-то ўжо праблем у сельскай гаспадарцы не будзе ніякіх. Але прыгожа гаварыць, гэта зусім не значыць забяспечыць сяло ўсім неабходным. У Мёрскім раёне, да прыкладу, за тыдзень да пачатку касавіцы, былі не адрамантаваны 89 са 160 збожжаўборачных камбайнаў. Нават калі ўлічыць, што ў раёне набылі 10 новых адзінак гэтай тэхнікі, то агульная нагрузка на камбайн складзе 138 гектараў. Ёсць і праблема з палівам. Хлебаробы стараюцца, як могуць, каб раён быў з хлебам. 17 цеплагенератараў і 4 барабанныя зернесушылкі перавялі на дровы, бо грошай на закупку паліва няма. Уборачная закончыцца толькі дзякуючы працавітасці вяскоўцаў, дзелавітасці кіраўнікоў на месцах, а не прыгожым словам з вялікіх трыбун.

*У.Шык*

## Вечная ✝ памяць

У ноч на 23 жніўня, аджыўшы ўсяго 60 год, памёр Рымдзёнак Уладзімір Уладзіміравіч, былы механізатар калгаса Ільіча Шаркоўшчынскага раёна. Усё жыццё ён шчыра працаваў, руліўся, зарабляў хлеб надзённы для сваёй сям'і. Зараз чалавека не стала. Выказваем шчырыя спачуванні жонцы Рымдзёнак Ганне Міхайлаўне, дзецям, усім блізкім і родным нябожчыка. Трымайцеся, дарагія, маліцеся за спачын яго душы. Дай Бог, каб Вы справіліся з усімі цяжкасцямі, якія выпадуць у Вашым жыцці. Падтрымаем адзін аднаго ў бядзе, паплачам разам і разам успомнім Уладзіміра Уладзіміравіча.

*Сям'я сястры Сафіі Табола*

## Вечная ✝ памяць

6 жніўня ў Таронта (Канада) памерла Надзея, жонка Кастуся Акулы, нашага земляка, пісьменніка, актыўнага змагара за незалежнасць Беларусі. Гэтая жанчына, са слоў Кастуся, была яму падарункам Божым. Яна без скаргаў і папрокаў крочыла поплеч з мужам, была каханай жонкай, рупліваў і пяшчотнай матуляй, вернай спадарожніцай і дарадцай.

Смерць блізкага чалавека перажыць вельмі цяжка. Шчыра спачуваем Кастусю і просім Госпада нашага дапамагчы яму перанесці боль страты.

Паважаны Кастусь! Не лічыце сябе адзінокім, бо мы, Вашы землякі і аднадумцы, разам з Вамі. З Вамі наша агульная справа і адзіная Бацькаўшчына!

*Супрацоўнікі газеты "Вольнае Глыбокае"*

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### БУДУЮ:
хаты, гаражы, фундаменты, платы з каменя. Нядорага. Па дамоўленасці. Тэлефон у Глыбокім: 23754

### АБМЯНЯЮ:
☒ 3-пакаёвую прыватызаваную кватэру без выгод у Глыбокім на адна- або двухпакаёвую з выгодамі. Звяртацца па адрасе: вул.Чкалава, 3 кв. 2

### КУПЛЮ:
☒ ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане. Тэлефон у Наваполацку 8-245-73042(Саша)

### ПРАДАМ:
задні мост да BMW 5-ай серыі. Тэл. У Глыбокім:23754

-- Аўтамабіль УАЗ -- 3962 («хуткая» дапамога), дызель, 1999г.в., колер -- пясочны, у выдатным тэхнічным стане, прабег 16 тыс. км -- ЗІЛ-130, дызель. Тэл. у Шунеўцах 3-43-85 (пасля 21[00])

### ЗДЫМУ:
На працяглы тэрмін аднапакаёвую кватэру з выгодамі для аднаго чалавека
Тэл. 3-86-25, (2-11-73 з 8.00 да 18.00, Лена)

Прадам вязальную ручную машыну «Северянка», куплю піяніна «Беларусь», танна. Тэл. 2-15-11



18 жніўня ў гарадскім парку г.Наваполацка адбыўся канцэрт такіх рок-гуртоў як "Крама" і "Цмокі". Падчас канцэрта адбывалася распаўсюджванне перадвыбарчай літаратуры (майкі, налепкі "Выбірай"). Адзін чалавек затрыманы за падобную дзейнасць.

*А. Храпавіцкі*

Навінкі з кніжнай паліцы



***Кацярына Сосна, «Імгненні жыцця», Мінск, «Беларускі кнігазбор», 2001г., стар. 67***

Гэтым летам у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" у Мінску выйшла першая кніга вершаў і апавяданняў «Імгненні жыцця» нашай зямлячкі з Шаркоўшчынскага раёна Кацярыны Сосны. "Яе творы, — як адзначыла рэдактар Н.Давыдзенка, — нязмушана распавядаюць пра хараство роднай прыроды, прыгажосць кахання, пра светлы і дзейсны пачатак жыцця", які сцвярджае аўтарка насуперак нягодам і паўсядзённым турботам.

Кацярына Сосна (Класоўская) нарадзілася у в.Паяныччы Шаркоўшчынскага раёна. Скончыла Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працавала ў Гродзенскім філіяле інстытута "Белгіпразем". Пераехала на радзіму. Займала пасаду старшага гідратэхніка саўгаса "Шаркоўшчынскі". З 1982 года – загадчыца сельгасаддзела рэдакцыі газеты "Кліч Радзімы". Займалася пры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі на факультэце грамадскіх прафесій па спецыяльнасці журналістыка.

Друкавалася ў абласных і рэспубліканскіх выданнях.

Мы віншуем калегу з выхадам у свет яе кнігі, яе першынца, і жадаем новых творчых поспехаў і ўзлётаў, здароўя і духоўнай моцы, дабрабыту і шчасця ў жыцці.

*Супрацоўнікі "ВГ"*

*Дарагі муж і тата Лей Васільевіч Табола!*

*Мы жывём, не заўважаем,*
*Як за годам год бяжыць,*
*У праблемах патанаем,*
*Спадзяёмся доўга жыць.*
*Раз у год абавязкова*
*Асабісты маем дзень,*
*Калі дораць нам анёлы*
*Спадзяванняў шмат, надзей.*
*Раскладзі касцёр з палення,*
*Да зары не патушы.*
*Гэты дзень лічы збавеннем*
*Адпачынкам для душы.*

*Мы ад душы віншуем цябе з днём нараджэння і жадаем, каб ты кожную сваю святочную восень сустракаў здаровым, бадзёрым, сярод дарагіх і блізкіх людзей, сярод добрых сяброў і суседзяў.*

*Жонка Сафія і сын Яўген*

Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў нашых распаўсюджвальнікаў

Незалежная рэгіянальная Вольнае Глыбокае газета

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула
Набор: Юрый Калбасіч, Наталля Янковіч
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём – 1 друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 27 жніўня 2001 г. у 9[00]

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 5413